# Дняпроўская СТРОМА




№ 15 студзень 2013 г.



Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»




Фота М.Яцкова

## З Днем нараджэння!

10 студзеня свой дзень нараджэння адзначае Яраслаў Іванавіч КЛІМУЦЬ. Мы зычым яму моцнага здароўя, высокай узнёсласці ў педагагічнай дзейнасці, натхнення ў літаратурнай працы, добрага настрою і ўсяго самага найлепшага!





Фота М.Яцкова

## З Юбілеем!

7 студзеня 50-годдзе з дня нараджэння адзначае паэт і бард, намеснік старшыні ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", наш добры сябра Эдуард Аляксандравіч АКУЛІН. Ён стаяў ля вытокаў узнаўлення дзейнасці Магілёўскага аддзялення СБП і прыкладае вялікія намаганні, каб гэта дзейнасць была дынамічнай і запатрабаванай.

Мы жадаем Эдуарду Аляксандравічу заставацца такім жа маладым, прыгожым і рухавым, і каб сонца ягонай песеннай паэзіі і надалей ззяла над беларускімі абсягамі, пакідаючы ў нашых сэрцах светлы роздум і ўдзячнасць за магчымасць дакрануцца да спрадвечнага і непаўторнага.

## СВЯТЛО ПАЭЗІІ

Першыя вершы Эдуарда Акуліна скарылі мяне перш за ўсё мілагучнасцю. Тады я нават не ведаў, што ён акрамя ўсяго яшчэ і бард. Калі даведаўся, то шчырае захапленне яго паэзіяй яшчэ павялічылася. Чамусьці тады, ад першых вершаў, мне падумалася, што нядрэнна было б іх пакласці на музыку, бо амаль кожны з іх мог стаць калі не гімнам, то яркім прыкладам паўсядзённага спеву ў невялікіх гуртах.

Тады, на мяжы 80-х – 90-х асабліва ўражвала не толькі грамадзянская адкрытасць, напорыстасць і жаданне мець усе адказы адразу, але і мілагучнасць, пэўная напеўнасць, меладычнасць, проста душэўная заспакоенасць. Мне здаецца, што ўсё гэта ў многім забяспечвалася ўнутранай інструментацыяй кожнага твора, што таксама ішло з глыбокай душы паэта.

Праўда, яшчэ тады заўважыў, што вершы Эдуарда Акуліна валодалі і надзвычайнай сілай уздзеяння на душы людзей, актывізавалі свядомасць.

Мяне неяк надтаж уразіў верш Эдуарда Акуліна "Грэшнік".

*Хай за гэта мяне караюць,*
*хай за праўду распнуць, і ўсё ж –*
*замест крыжа ў душы хаваю,*
*як Варава, халодны нож.*

*Абвіла, як змяя, дарога,*
*дні згарчэлі на лебяду.*
*Не з крыжом, а знажом да Бога*
*на паклон да бога іду...*

*Крыж – у Бога, а нож – у Смерці,*
*а душа у мяне баліць.*
*Як жагнаюся, дык у сэрцы*
*крыж аб нож серабром звініць.*

Не ведаю, як іншыя, а ў гэтым вершы я адчуў тую спрадвечную супярэчнасць, што гняла, відаць, многіх у змушаным будаўніцтве камунізму няведама для якіх пакаленняў. Вось гэты разрыў паміж высокім духоўным і паўсядзённай рэальнасцю бянтэжыў больш за ўсё. Бо заўсёды хацелася аб'яднаць боскае і зямное.

А ўсё ж паэзія Эдуарда Акуліна аптымістычная, жывіць душы бессмяротным нектарам, вядзе да ўдасканалення кожнага. Тут трэба толькі умець знаходзіць адказы на ўсе пытанні, што паўстаюць перад чалавекам, лічыць паэт.

Жыццё – найвялікшая рэч. І гэта славіць у сваіх вершах Эдуард Акулін. Дык пажадаем яму яшчэ многіх летаў на гэтым стаўным шляху.

*Яраслаў КЛІМУЦЬ.*

( Заканчэнне на с.2-3 )




## З Новым годам і Калядамі!

## Нарадзіліся ў студзені

► 1 студзеня 1936 г. у в.Аколіца Клічаўскага раёна нарадзіўся Анатоль Паўлавіч КУДРАВЕЦ – празаік, перакладчык.

► 4 студзеня 1864 г. у в.Добасна Рагачоўскага павета Магілёўскай губерніі (зараз Кіраўскі раён) нарадзіўся ЯДВІГІН Ш. (Антон Іванавіч ЛЯВІЦКІ) – празаік, публіцыст, драматург, паэт.

► 7 студзеня 1925 г. у в.Будзішча Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся Васіль Васільевіч КАРПЕЧАНКА – паэт.

► 7 студзеня 1929 г. у в.Трубільня Краснапольскага раёна нарадзіўся Мікалай Пятровіч ЛУФЕРАЎ – крытык, літаратуразнавец.

► 7 студзеня 1936 г. у в.Васількі Бялыніцкага раёна нарадзіўся Аляксандр Пятровіч МЕЛЬНІКАЎ – паэт.

► 9 студзеня 1897 г. у в.Міхінічы Чэрыкаўскага павета нарадзіўся Васіль Антонавіч ШАШАЛЕВІЧ – драматург.

► 12 студзеня 1919 г. у в.Канічы Касцюковіцкага раёна нарадзіўся Васіль Фёдаравіч ХОМЧАНКА – празаік

► 12 студзеня 1929 г. у в.Сычык Крычаўскага раёна нарадзіўся Дзмітрый Якаўлевіч БУГАЕЎ – крытык, літаратуразнавец.

► 15 студзеня 1936 г. у в.Сласцёны Горацкага раёна нарадзіўся Віктар Сямёнавіч КУДЛАЧОЎ – паэт.



## Як у нашай грамадзе

Як у нашай грамадзе -
Няма такога больш
нідзе -
Яшчэ дзень не надышоў,
А мужык ужо гатоў.

Не да працы – пачакае,
Мара бо ў яго не тая.
На дварэ дык ноч яшчэ,
А ўнутры ажно пячэ.

Бо учора так набраўся,
Што да дому
ледзь дастаўся.
Ну а ў гэты ранні час
"Кропкі" адчыняюцца,
І усе, як пад заказ,
Там апахмяляюцца.

Падлячыўся – ў галаве
Адразу пасвятлела,
І у дзень, што надышоў,
Ты ўжо крочыш смела.

І праз нейкі час заўжды
Знойдзеш тых,
хто трэба,
У каго, як і ў цябе,
Ёсць адна патрэба –
Перашкоды ўсе прайсці,
А да вечара знайсці
Жаданае зелле.

А назаўтра ўсё ізноў
Па звыклай завядзёнцы -
Абяцаеш больш не піць
На каленях жонцы,
Абы толькі, каб яна
Знайшла апахмяліцца,
І за гэта на яе
Ты гатоў маліцца.

*Фелікс ШКІРМАНКОЎ.*

# Эдуарду Акуліну – 50

## Непарожні душою...

На адным з паседжаньняў Рады Таварыства беларускай мовы у Чырвоным касьцёле Алег Трусаў, абвясьціўшы перапынак, дадаў: "Зараз вам будзе сьпяваць Эдуард Акулін." Мне тады гэтае імя было невядомым, але людзі, што сядзелі побач, ажывіліся і заапладзіравалі. Хударлявы хлопец з гітарай выйшаў на сцэну і запеў:

*Прыземістыя коні*
*іржуць пад седакамі,*
*Трапеча сьцяг з Пагоняй*
*над Вітаўта палкамі...*

Мне падумалася, што да такой песьні яго лірычны тэнар неяк не пасуе. Але сама песьня добра легла на маю душу.

*А воля на ратным полі*
*Мільгнула між лесу дзід.*

Ён праспяваў мо тры ці чатыры песьні і быў праведзены прыязнымі воплескамі. Мяне асаблива кранула "Малітва" ("*Божа, не дай мне лёсу без Беларусі жыць...*"), якой ён закончыў свой маленькі канцэрт. Тут яго тэнар ужо добра адпавядаў настрою песьні.

Пазьней я набыў дыск зь яго песьнямі і пераканаўся, што мае чаканьні яго лірычнай творчасьці былі правільнымі.



Міхась Булавацкі і Эдуард Акулін. *24 лістапада 2012 г.*
Фота М.Яцкова

Акулін – цудоўны лірык. І быць бы яму песьняром каханьня, але сёньняшняе жыцьцё нашай бядотнай краіны патрабуе іншых сьпеваў. І ён адгукаецца, цягнучыся да Максіма, якому служыў і прафесійна, і творча:

*Ты вышэй ад усіх, Страцім!*
*Да цябе мы усе ляцім – як можам.*
*Да цябе даляцець нам сіл –*
*дай Божа!..*

У творчасьці апошніх гадоў Акулін узгадвае біблійныя сюжэты. Не страціўшы маладога задору і юнацкай задзірлівасьці, ён дзе-нідзе кранае Бога неабачліва ("*Тройчы ўмёршы, ніхто не вы-жыў шчэ, нават Бог. Паганіні змог.*" Неяк дзіўна казаць пра Бога, што ён "не выжыў"; дый увогуле параўноўваць чалавека, хай сабе і надзвычай таленавітага, з Богам неяк недарэчна). Але веру: паэт асвоіцца і ў гэтай прасторы. Бо за юбілеем пачынаецца Час Мудрасьці.

Таму – зь юбілеем, Эдуард! Радуй і далей нас сваімі песьнямі – лірычнымі, рамантычнымі, патрыятычнымі, раздумлівымі, духоўнымі. Зь імі даляцім да Максіма... і да Беларусі.

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**

## "А на сподзе душы - лілея..."

Паэзія Эдуарда Акуліна кранае сваёй шчырасцю, дзіцячай даверлівасцю, чысцінёю. Хіба можа быць інакш, калі ў паэта *"на сподзе душы – лілея..."* За радкамі бачыцца постаць паэта з трапяткім сэрцам, крылатай душою, з крывіцкай памяццю, з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй. Эдуард Акулін паэтызуе ўсё, што дорага яго сэрцу, – і парог, і страху, і клямку, і вільчык, і цэбар, і гужы, і прымыльнік ...

Вершы паэта вобразныя. І гучаць яны нязмушана і арганічна. Здавалася б, дзе ўзяць словы, каб перадаць нараджэнне верша? Пісалі аб гэтым сотні аўтараў. Акулін знаходзіць сваю асацыяцыю:

*І сон з пакоя збяжыць упрочкі,*
*і будуць зябка аб шыбу біцца*
*радкі-падлёткі насустрач ночы,*
*каб ранкам вершам у высі ўзвіцца!*

Адметнасць паэзіі Эдуарда Акуліна ў мове. Ён уводзіць новыя словы, якія дадаюць вершам свежасці і навізны. Напрыклад, *рыбнаглядны*, *дубаволатавы*, *усюдыісны*, *лесахрэсніца* (восень), *бокамлежачы*, *чорнаанёлавы* (рай), *увырайлётныя* (гусі), *вечнанятленны*, *сінедаль*, *чужадаль*, *жыццярастанне*, *прыкаўнярыла* і іншыя.



Эдуард Акулін і Тамара Аўсяннікава. *26 красавіка 2012 г.*
Фота М.Яцкова

Звяртаюць на сябе ўвагу эмацыянальна-супярэчлівыя вершы, прысвечаныя маці. Разам з паэтам мы перажываем дзіцячы боль лірычнага героя і ўсведамленне ім сваёй віны.

*Час прыйшоў за грахі вініцца.*
*Памяць паліць гады на тло.*
*Ды часцей стала мама сніцца,*
*Не сама, а яе свята.*

Дамінантамі ў паэзіі Акуліна выступаюць словы: *крылы*, *анёл*, *Бог*, *човен*, *душа*, *памяць*, *сны*, *каханне*, *Беларусь*... Так, крылы, як жа без іх. І хваляванне тут паэта мне бачыцца натуральным:

*Люстэрка па даўнім звычаі*
*схавае ад воч радня...*
*А што, як сябе бяскрылаю*
*убачыць у ім душа?..*

Шчырасць паэта Акуліна падкупляе. Здавалася б, што прасцей: *"Жывіце вочы ў вочы..."*. А ці ўсе мы так жывём? А хацелася б! Хацелася б жыць "вочы ў вочы" і быць патрэбным. На погляд паэта:

*Ты камусьці патрэбны.*
*Ты патрэбны камусь...*
*Покуль моліцца небу*
*за цябе Беларусь.*

У паэзіі Акуліна найчасцей мне сустракалася слова *"човен"*, *"непрычалены човен"*. Я жадаю шаноўнаму Эдуарду Акуліну, каб яго човен яшчэ паўстагоддзя, можна і болей, заставаўся непрычаленым, а душа акрыленай, каб найменей было скрушных хвілін, а на сподзе душы квітнела лілея.

**Тамара АЎСЯННІКАВА.**

Эдуард Акулін
Мікола Яцкоў
*Мае сны без цябе пустыя...*



*Песні*

Эдуард Акулін
Мікола Яцкоў



НЕПРЫЧАЛЕНЫ ЧОВЕН

## Да юбілею

Да юбілею Эдуарда Акуліна кампазітар Мікола Яцкоў падрыхтаваў і выпусціў у свет два песенных зборніка – "Мае сны без цябе пустыя" і "Непрычалены човен".

Паэзія Эдуарда Акуліна вельмі спеўная, і кожнае слова вершаваных радкоў гэтага аўтара мае своеасаблівую музычную інтанацыю.

У зборнік "Мае сны без цябе пустыя" ўвайшло шаснаццаць песень. Творы Э.Акуліна заўжды вызначаюцца пранікнёным лірызмам, тонкім гукапісам, абвостраным адчуваннем глыбінь чалавечых пачуццяў, у падмурку якіх невычэрпны і рэльефны меладызм. Усё гэта прыцягнула ўвагу М.Яцкова, які ўслухаўся ў гучанне паэтычных радкоў і паклаў пачутыя мелодыі на нотныя аркушы.

Мікола Яцкоў таксама пагартаў старонкі кнігі Эдуарда Акуліна "Непрычалены човен" – і дваццаць вершаў адразу ператварыліся ў песні. І ўзляцелі яны лёгкакрыла ў родную прастору – каб несці нам прыгажосць і спагаду, і каб непрычалены акулінскі човен абавязкова даплыў да кожнага удзячнага беларускага сэрца.

**Аліна САВІЦКАЯ.**

# Эдуарду Акуліну – 50

БЕЛ » Навіны » Юбілейная вечарына Эдуарда Акуліна — 7 студзеня

## Юбілейная вечарына Эдуарда Акуліна — 7 студзеня

31/12/2012




**7 студзеня 2013 года ў сталічным Палацы мастацтва (вул. Казлова, 3) адбудзецца юбілейная вечарына Эдуарда Акуліна "Не магу жыць без крыл..."**

У імпрэзе бяруць удзел: Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Леанід Дайнека, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў, Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько-Майсюк, Міхась Скобла, Мікола Яцкоў, Кастусь Герашчанка, Таццяна Беланогая і іншыя беларускія паэты і барды.

У межах вечарыны — прэзентацыя новай кнігі "Малітва воч" і кампакт-дыска "Не магу жыць без крыл...".

Святочны настрой і калядныя цуды — гарантуюцца!

Пачатак а 16-ай гадзіне. Уваход вольны.

Прэсавая служба СБП

## ВЕЧАРЫНА

Усяго чакалася, але пра такое неабдымнае адзінства глядзельнай залы з тым, што адбывалася на сцэне, я нават і думаць не мог. Калядны інтэр'ер надаваў містычнай узнёсласці, Акулін быў нястомным, аддаючы нам свае пачуцці і памкненні. І сябры, выступаючы, мімаволі натхняліся гэтым нябесным уздымам – І не было ніякага афіцыёза, і прамаўляліся самыя патрэбныя словы. І час, здаецца, уклаўся літаральна ў некалькі хвілін...

Было прыемна, калі Эдуард аб'явіў нас і дадаў, што зараз прагучыць ягоная любімая песня. І была ідэальная цішыня – зала ператварылася ў суцэльны слых, каб нічога не прамінуць ва ўзнёслым аповедзе пра каханне і адзіноту...

Няхай жа жыве Каханне на зямлі!

*Мікола ЯЦКОЎ.*


Эдуард Акулін


Уладзімір Някляеў


Слова Анатоля Вярцінскага


Леанід Дранько-Майсюк


Сяргей Законнікаў


Выступаюць Ала і Мікалай Яцковы


Перапоўненая глядзельная зала. На першым радзе злева сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч

Фотаздымкі Міколы ЛІННІКА і БелаПАН

*Эдуард АКУЛІН*

# Бой з сабой

*Нізка вершаў «Бой з сабой» была даслана спецыяльна для публікацыі ў «Дняпроўскай Строме». Дзякуй спадару Акуліну за гэта!*

### ПАГАНІНІ

Вочы майстра – сляпыя пальцы --
па вяках пракладаюць шлях.
Ды чамусьці аб струны раніцца
да крыві найчасцей душа.

Як самому з сабою справіцца?
Па анёлу на дзве рукі...
Калі пальцы, як свечкі, плавяцца –
слёзы просяцца ў жабракі.

Падпілоўвала здрада хіжая,
падпільноўвала кожны крок...
Тройчы ўмёршы, ніхто не выжыў шчэ,
нават Бог. Паганіні змог.



### АРДА

*Вользе Іпатавай*

У чужынцаў – звычка такая –
за сабою паліць масты.
Як разгублена вол рыкае,
як дрыжаць між павекаў ксты...

А дымы над бязмежным краем
працінаюць стрэл спічакі...
Гэта Бог за грахі карае
вузкавокі, як крымчакі.

Твар Іуды між хмар лунае,
упіліся ў душу цвікі.
Сонца-шчыт у руках Мамая
не заходзіць аж тры вякі...

Не змазолелі ў кроў калені,
не прадалі душу ў ярмо.
Спакон веку свабоду мелі
і сягоння не аддамо!

### СЛЕД

Не ў Евангеллі,
а у гліне
віфліемскай
згубіла след
небаверная Еўфрасіння...



Бог заўважыў
яго
і з гліны
той спачатку
зляпіў цаглiну,
а пасля –
беларускі свет.

### ПАЦАЛУНАК ІУДЫ

Дух Гасподні лунаў над светам,
цела ела цвікоў іржа,
а ўжо ён, пацалунак гэты,
споўз, як змоўж, на зямлю з крыжа.
Камнем кануць народы ў Лету,
час застанецца без замкоў...
Толькі ён, пацалунак гэты,
пераможа арду вякоў.

Ноч агорне крылом планету,
Госпад вернецца, каб судзіць...
Ну, а ён, пацалунак гэты,
будзе ў цэмры Яму сьвяціць.

### БОЙ З САБОЙ

І гарачы сінайскі вецер,
і грыфоны – сляпой ардой --
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

І жанчыны у чорным зрэб'і,
і аракулаў гулкі рой
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

І апосталы – твае дзеці,
і Анёл з залатой трубой
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

Але кожны з іх, чуеш, кожны
сніў трыумф пераможны твой.
І ніхто й не падумаў, Божа,
што ты бой распачнеш з сабой.

### БЫЛО...

*Калісь глядзеў на сонца я...*
*Максім Багдановіч*

Ты ўся сатканая з лілей,
ты ўся сатканая з туману...
Віно з з вадой змяшаў Арфей,
а я віну змяшаў з падманам...

А я насмеліўся сказаць
і паўтараць, як псальм, бясконца:
-- Гасподзь жанчын такіх ствараць
павінны быў з праменняў сонца...

Бо ты і ёсць само сявтло,
што асляпляе і чаруе...
Хай нехта скажа мне мне: -- Было...
Было... Аслеп... Гасподзь даруе.

### УГЛЯДЗІСЯ

Каб сустрэцца з паглядам Бога,
углядзіся ў сябе самога...

7.01.2012

*Калі праз чорнае ранне і студзеньскій сівер, скрозь заснежаныя Брылі пачаўся наш шлях на Мінск да Акуліна – аднекуль раптоўна прыйшлі радкі. І былі яны агучаны са сцэны. І нам вельмі ўсцешна, что яны з'явіліся.*

*Мікола ЯЦКОЎ*

Ветру чорнага віск,
І не бачна шляхоў;
Пад каляднаю зоркай Брылі непрытуленыя...
Сёння едзем на Мінск –
Да прыязных сяброў,
Што збяруцца на сонечнай прызбе Акуліна.

Будзе сэрцаў зліццё
з лічбай той залатой,
развінецца гаворка гаманлівым абрусам –
пра каханне, жыццё,
мамін дом і пра тое,
што былі,
ёсць
і будуць
заўжды беларусы!

*Ала ЯЦКОВА*

Палац мастацтва.
У зале цесна.
Імпрэза.
Класікі ў рад.
Каляды.
Сьвята.
Наша песьня.
Віват Акуліну!
Віват!



# Творы пераможцаў конкурсу "У адзінстве наша сіла"

**Виктор ЧЕКИРОВ,**
1939 г.р., *г. Воронеж, Россия*

## ХЛЕБ НАШЕГО ДЕТСТВА

*Отрывок из повести*

( Окончание. Начало в № 14 )



Я обхватил его обеими руками и осторожно понёс к санкам. Было ужасно неприятно брать его, неприятно нести.

Дотащил до санок, бережно уложил, как маленького, хорошо уложил, чтобы не свалился по дороге.

— Поехали… – сказал я, глядя в землю.

— Поехали так поехали. Мне-то што… Ну, ты, я вижу, сёдня натопишь хату, согреешь своих. Ух и жара будет у вас сёдня, как в бане…

— Заткнись!!! – Я был готов разорвать Кобу на части.

— Молчу, молчу, уже замолчал… всё, всё… тсс… – остановил меня ладонью в варежке Коба, видя, что я подался к нему.

Дорога была мукой ещё большей. Затейка с Тобиком весело бежали впереди и всё время раздражали меня своим дурацким весёлым видом. Особенно глупая морда была у Тобика. Луна как припадочная неслась впереди нас на небе и кричала: «Воры! Грабители!» Было светлее, чем днём, луна слепила вовсю, ныряла на секунду в тучу, снова выныривала на чистое и опять кричала своё: «Воры! Грабители!» Мы молчали, я боялся всего, дрожал и холодел от каждого шороха. Было стыдно и так, а если встретим кого?! Если застукают, вот позорище будет! По санкам я чувствовал: крест на месте, лежит как миленький, не свалился. Оглянулся – хорошо лежит? Крест и непривязанный лежал тихо, как покойник, не двигался, не сползал и по-прежнему глядел в небо. Наверное, смирился со своей участью. Смирение его не нравилось мне.

Коба приехал быстрее. Наш двор дальше, и мне ещё чапать да чапать. Я не ответил Кобе на его «покедова – до завтрева», а когда обернулся ответить, Кобы уже не было. Затейка долго не оставляла своего Тобика; я поехал одинодинёшенек. Незнакомая бабка встретилась-таки. Карга старая! Шляется по ночам! И чего шляется? Сидела бы дома. Я не узнал её, а если она меня знает… Оглянулся – любопытная Варвара, чтоб ей нос оторвало, глядела мне вслед, и крестилась, и меня крестила, и бурчала сердито. «Везёт же Кобе, теперь мне одному отдуваться за его блеск-идею».

Но настоящая мука началась во дворе. Я остановился у двери, стоял, совсем забыл, что дальше. Нужно идти в хату. Ноги не шли. Затейка подбежала, удивлённо подняла морду: «Чего стоишь?» Оказывается, наша Затейка дура дурой, совсем ничего не понимает, а я всю жизнь считал её очень умной. Не знаю, как я вошёл.

В хате было просто замечательно. Так здорово у нас никогда не было, мне так понравилось, – сто лет не был дома и вот вернулся. Коптилка горит. Христя, как всегда, лежит на своей кровати, ни о чём не тужит. Мать шьёт, подслеповато щурится, прицеливается ушком иголки в нитку – здорово! Я всегда смеялся над матерью, что одна она такая: все нитку в иголку вдевают, а наша мать наоборот. Сейчас мне это ужасно понравилось – какая мать у нас!

— Ну что? – спрашивает мать мирным, вечерним голосом, – где ваше бревно?

Я стою на пороге, молчу. И оттого, что у нас в хате так хорошо, как никогда, и от материного тихого, умиротворённого, вечернего голоса, и оттого, что мать спросила о бревне, я тут же вспомнил: во дворе на санках крест, как покойник, – от этого я вдруг острее острого ощутил беду – прямо ножом резануло, и тоскливо похолодело сердце. Уже и в хате, где только что было всё просто замечательно, теперь и в хате была беда, и на сердце беда; и даже во рту у меня – солёный привкус беды.

— Да что с тобой? – Мать встревоженно подняла голову от шитья. – Что случилось?! Чего истуканом стоишь?!

Я молчу. И мать почувствовала беду. Беда уже мелькнула, уже смотрела материными глазами, была в её лице, в сутулой, как крутая горка, спине, в опущенных, покатых плечах. Мать поспешно накинула платок, толкнула дверь, выскочила на улицу.

Её не было целую вечность.

Когда она снова влетела в хату, хлопнула дверь, язычок коптилки испуганно метнулся, подпрыгнул над коптилкой, и тени метнулись, подпрыгнули на стенах, – я думал, стены падают, вот тут, даже в полумраке хаты, я увидел материны выпученные, полные ужаса глаза. Затейка, почуяв недоброе, опустила голову, пошла виновато, поджала хвост, нырнула под кровать.

— Ты што… што ты привёз!!! Да как… как же ты додумался?.. – Мать мечется по хате, что-то ищет, нашла. В руках у неё дубец, подошла, держит его перед собой как шпагу. – Раздевайся! – трясет нетерпеливо.

Я скинул телогрейку. Мать больно стеганула, ожгло дубцом по спине через плечо – гибкий, изогнулся, прилип, жиганул сквозь тонкую рубаху, так и пристал к телу. Мать пошла охаживать меня вдоль и поперёк – по плечам, по спине, по рукам, – старается, стахановка. Дубец пристаёт как мокрый, приклеивается больно, а отдирается ещё больнее, вместе с кожей, и кожа ещё больнее горит полосой, будто целый улей пчёл жиганул сразу. Мать порет меня, порет; дубец вжикаёт, спина горит, я ойкаю, терплю; некстати мелькнула в голове присказка: «Хороший дубец оставляет рубец». Раз на речке Культын задрал майку снимать, а у него вся спина исполосована, в кровавых синих рубцах, свеженькие. Пахан отделал за что-то. Тогда мы и услышали от Культына эту присказку. Он сказал её весело, даже гордо и ни капельки не стеснялся ни рубцов, ни того, что пахан его лупцует. Культын повернул так, будто даже немного гордится, что у него рубцы, и мы ему даже малость завидовали.

— Ах ты, образина безмозглая!.. Пенёк, чурка с глазами… да чтоб у тебя руки отсохли… чтоб тебе повылазило совсем… додумался… угораздило… – Мать совсем упарилась, уморилась меня лупить и кричать умориласъ. На моё счастье, дубец сломался, – так старалась. Ткнула ещё обломком, кинула его в меня и принялась чесать ладонью по щекам, по уху… Я отскочил, и мать погналась за мной. Заголосила, отошла, схватилась за голову, заплакала и зарыдала. Тут и Христя подала голос. «Дня им мало, ироды, и ночью от них покою нет», — бурчит Христя. Кровать скрипит. Христя перевернулась на другой бок или ворочается, недовольная.

— Наказание моё! Глаза б мои не глядели на идиота… чурбан бесчувственный… да лучше ж мне околеть, чем такое… на што хорошее у него ума нету, а на всякую пакость – вот он! – Мать причитала, а мне уже легче. Наказали, дело сделано, теперь я прощён, считай. Но я рано радовался. — Одевайся! – Мать поднялась, не плачет уже. Стала быстро надевать Христины валенки, жакет, даже не спросилась у Христи. — Одевайся, одевайся!

— То раздевайся, то одевайся… – для виду бурчу я, ничего не понимая, натягиваю телогрейку. — Ещё чего?

— Пошли! – Мать уже пошла, мы уже во дворе. — Бери санки, поехали!

— Куда?

— За кудыкины горы! Откуда привёз, туда и поехали.

Молча стронул уже прихваченные морозом к земле санки. Мать шла впереди, ёжилась, прятала руки, как в муфту, рукав в рукав. Ей было холодно, а может, она, как я давеча, боялась встретить кого. Обернулась, подождала, пока я поравнялся с нею, пошла рядом и, чувствую, опять заводится.

— Ты сообразил дурной своей башкой, что сделал? На что руку поднял? У кого взял, кого обидел?.. – Мать опять дала мне тычка в лоб. — У-у… курячья голова…

— Сообразил уже… – недовольно отмахнулся я. — Будет ещё на улице пихаться… распихалась!

— «Со-образи-и-ил уже!» – передразнила мать. — Сначала делает, потом думает, умник! Могилу отца ты разоришь? – крикнула неожиданно. И остановилась. — А мою?!?

— Ты што? – я похолодел от голоса её, от крика и оттого, что она сказала.

— А ты што делаешь? А бабкину? А дедову разоришь? – всё кричала, всё спрашивала мать. — Ты соображаешь, на што замахнулся? Кого обобрал? Сам с чем останешься?!

Вот тут у матери опять были страшные, круглые глаза, и кричала она страшно, и говорила страшное, и я понял: натворили мы с Кобой делов.

— Кто ты без этих могил? Что мы без них? – тихо, уже не ругаясь, как бы себя спросила мать. — Даже не сирота – сирота от родителей не отказывается, даже не нищий, не бродяга – выродок рода человеческого без роду, без племени. Это наше кладбище, наши там, наши… родня, род…

«Смотри, сколько всего!»

— В школу тебе надо, – совсем неожиданно спокойно сказала мать. — А то вырастешь на собак брехать, на людей кидаться… К зиме обязательно обувку, разобьёмся, а справим…

Больше мать не прибавила ни слова. Мне стало так хорошо, так легко на душе. Спина горит под теплушкой, а на душе весело. Порка позади. Моя самая замечательная мамка простила меня, и крест мы везём назад.

Никого мы не встретили за всю дорогу, только перед самым кладбищем мать испуганно приостановилась: из ворот выходила закутанная в платок тётка и тоже заметно испугалась, отшатнулась, увидев нас, а за нею… – я сразу узнал! – за нею шёл Коба. Мать в замешательстве, подходя, кивнула Кобиной матери, и та, напряжённо всё вглядываясь в нас, сразу же ответила, кивнула тоже. Мы сошлись, я взглянул на Кобу и уже не мог оторваться от него: под глазом у Кобы светил вот такой фингал! Замечательный!!! Синий, аж чёрный! Я глядел на фингалище с нежностью и тайным злорадством – нехорошо, знаю, но я радовался: Коба получил по заслугам, какой красивый фингальчик, прелесть просто! Коба опустил глаза.

— Хороши детки, – первой заговорила Кобина мать, отрывая взгляд от наших санок.

— Нечего сказать, хороши, – вздохнула моя.

— У всех дети как дети…

— Вези, вези сам, поставь на место, – сказала мне моя мать, заметив, что я прислушиваюсь к их разговору.

— И ты с ним, – Кобина мать мотнула головой Кобе.

Мы поехали. Я уверенно нашёл свою могилу, воткнул крест на старое место. Он стал – картинка! Как никто и не трогал его никогда. Ему очень нравилось стоять здесь, и я глядел на него. Здесь он и мне больше нравился. Кобины кресты лежали на могилах плашмя, – четыре поломанных, мёртвых. Коба оглянулся воровато, зашептал:

— Жаль… не догадались мы с топором… и мать не узнала бы… я придумал, давай денька через два.

Я даже растерялся: вот гад, так ничего и не понял!

— Я тебе щас, обормот… голову отверну… скажу, так и было…

Теперь Коба стоял ошарашенный, рот раскрыл.

— Это ж наши… Коба…

— Покойники простят, им што… – Кобин глаз зло выглядывал из жуткой черноты фингала.

— С-сука буду, убью… тронь только! – выскочило у меня.

Этого было достаточно. Коба понимал это лучше уговоров.

Домой шли все вместе. Матери разговаривали. Коба недовольно молчал, я рассуждал сам с собой, думал. Я шёл и думал: вот гад Коба. Гад или придурок? Да нет, просто так, вшивота… лопух, а может, хотел лучше.

Странно, я не злился на Кобу. Я радовался. Очень радова-



Конкурс "У адзінстве наша сіла" праводзіўся ў рамках IX Сіманаўскіх чытанняў ( гл. "Дняпроўская Строма" № 13 ).





ло, что на весь город одни мы с Кобой оказались такие ушлые. «Умней» нас не нашлось. Остальные люди как люди. Чем больше думал, тем больше удивляло: весь город разгорожен, калитки, заборы, плетни, всё деревянное пожгли, деревья спилили. А кладбище стоит себе. Ни одна голова не допёрла, одни мы с Кобой. Как это здорово – одни мы такие… «Ловкость рук и никакого мошенства». Ловкач нашёлся, – усмехнулся я на Кобу, совсем не зло. «Мозгой шевелить надо!» Я видел Кобу с хо-рошей гулей под глазом. Привесили фингальчик, вот и шевели мозгой. Меня хоть дубцом, под рубахой не видно! – радовался я. На душе уютно, неприятности позади, крест снова на своём месте. Как прекрасно, когда всё неприятное позади, как здорово!

Утром я проснулся – Василич, сосед, старый-старый, еле ногами човгает, неторопливо рассказывал матери:

— Какие-то мерзавцы, Надежда, кресты на кладбище губят, весь город взбалабонили. Сломают и бросят на могиле... Вот шпана отпетая, и какое им удовольствие?.. – кряхтел дед. — А руки чешутся – разогнался б, паразит, да головой об стенку, раз руки чешутся… Так нет же, ни один не попробовал… Кресты им помешали… Ох-хо-хо, и чего только не придумают! Пороть их некому, вот и бесятся… Собаку побить жалко, а этих басурманов не жалко, пакостники, ох-хо-хо…

Василич пошёл, подошвами валенок шмурыгает, шажки маленькие, ноги не отрывает от полу, трудно ему, а мать строго посмотрела на меня, но ничего, молодец, не сказала. Я думал, опять начнёт. Сколько можно?

Вечером под Рождество Василич солому палил. Вспомнилось: во дворе у себя, прямо на снегу костерок разжёг и палит. Как раз меня мать зачем-то посылала к ним.

— У тебя што, – говорю, – дед, дров некуда девать? Так нам отдай на растопку, на разжижку.

Василич молчит, не поймёшь у него, слышал или нет, палкой солому шевелит в костерке, и она красиво вспыхивает, светится вся, рассыпается жаром.

— Свет белый отапливаешь? – Я уже собрался уходить, от деда ничего не добьёшься, а мать ждёт, но Василич удивил меня.

— Так што-то, блажь на душу нашла… Дед мой Микола соломку жёг, я ещё пацаном бегал… Обычай был соломку жечь, – заговорил Василич раздумчиво, пристально вглядываясь в костерок. — Соломку жгли под Рождество Христово, пятки родным покойникам грели… Дай, думаю, и я соломки пожгу, дед Миколе пятки погрею… Блажь, конешно, а захотелось, и душе радость…

Я смотрел на Василича во все глаза: «Чудной, пятки греет дед Миколе… чушь собачья… Топку зазря переводит, лучше б сварить чё-нибудь…»



***ЧАКІРАЎ***
***Віктар Мустафавіч***

*Празаік.*
*Член Саюза пісьменнікаў Расіі з 1990 года.*
*Нарадзіўся 11 лютага 1939 г. ў г. Калач Варонежскай вобласці. Скончыў Варонежскі дзяржаўны універсітэт у 1963 г. Працаваў выкладчыкам у школе-інтэрнаце, адказным сакратаром Эрцільскай раённай газеты, галоўным рэдактарам газеты «Малады камунар», уласным карэспандэнтам «Комсомольской правды» па Цэнтральным Чарназем'і, галоўным рэдактарам Цэнтральна - Чарназемнага кніжнага выдавецтва. У цяперашні час – літаратурны кансультант Варонежскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі.*
*Лаўрэат прэміі Варонежскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі «В прекрасном и яростном мире» (2010 г.).*
*Жыве ў Варонежы.*



16 студзеня ў Магілёве абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы зладзіла штогадовае інтэлектуальнае спаборніцтва для школьнікаў «Беларускае пяціборства».Праходзіла яно традыцыйна ў Магілёўскім дзяржаўным універсытэце імя А.Куляшова. У сёлетнім, дванаццатым, «Пяціборстве» ўзялі ўдзел 23 школьнікі. Летась іх было — 30.

Як і ў папярэднія гады, удзельнікам прапаноўваліся заданьні па пяці школьных прадметах: матэматыцы, гісторыі, прыродазнаўстве, літаратуры й па мове. Па суме балаў будзе вызначаны пераможца.

Арганізатар “Пяціборства” Міхась Булавацкі адзначыў нездавальняючы ўзровень веданьня беларускай мовы ўдзельнікамі. У папярэднія гады М. Булавацкі па выніках «Беларускіх пяціборстваў» адзначаў тэндэнцыю па пагаршэньні веданьня школьнікамі нацыянальнай мовы беларусаў.

Канчатковыя вынікі «Пяціборства» будуць падведзеныя пазьней.

Упершыню інтэлектуальнае спаборніцтва прайшло ў 1999 годзе. М.Булавацкі высьветліў, што заданьні алімпіядаў па матэматыцы прапануюцца школьнікам толькі на расейскай мове, і паспрабаваў арганізаваць нефармальную алімпіяду па-беларуску. Ад 2001 г. спаборніцтва праводзіцца па пяці прадметах школьнай праграмы.

*Паводле svaboda.org*

# МОВАЙ ТВАЁЮ ЖЫВУ!

23 школьнікі розных класаў з розных гарадоў і вёсак сядзяць ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, думаюць і нешта пішуць. Што адбываецца? - Ідзе працэс "беларусізацыі".

Гэтыя школьнікі сабраліся на "Беларускае пяціборства". Яны маюць высокія адзнакі па беларускай мове і звыклі лічыць, што гэтай мовай больш-менш прыстойна валодаюць. Ім прапануецца развязаць нескладаную матэматычную задачу і адказаць на пытанні з фізікі. І раптам (!) яны ўсведамляюць, што для выказвання сваіх думак у іх не хапае слоў. Яны проста не ведаюць, як назваць сваёй мовай той ці іншы панятак з матэматыкі-фізікі. Не ведаюць таму, што ім пра гэта настаўнікі не казалі.

Школьнікі не вінны ў сваім няведанні. Тады хто? Настаўнікі? Але ж настаўнік беларускай мовы і не павінен займацца з сваімі вучнямі матэматычнай тэрміналогіяй. А настаўніку матэматыкі Міністэрства адукацыі не ўмяніла ў абавязак паведамляць сваім вучням, як гучаць матэматычныя тэрміны на беларускай мове. Шмат чаго ўмяніла ў абавязак - правільную форму падпісвання сшыткаў, шырыню палёў у сшытках, як пісаць, гарызантальна ці вертыкальна, дату дамашняй працы ды іншае, ды іншае, - а вось гэтага не ўмяніла. Міністэрства нават пагрэбавала прапановай адной вядомай прафесаркі друкаваць у рускамоўным падручніку невялічкія руска-беларускія слоўнікі адмысловых тэрмінаў, у гэтым падручніку скарыстаных. Не патрэбна!

На думку міністэрскіх розумаў выпускніку беларускай школы (хай сабе і рускамоўнай) не патрэбна ведаць беларускую мову ў поўным абʼёме. Ёсць нейкі нацыянальны бэйсік - і досыць! Міністэрства тут нават пярэчыць Прэзідэнту, які абвесціў, што "пытанне мовы ў нас вырашана раз і назаўсёды". А як вырашана? На роўных! Але міністэрству вынікі рэфэрэндуму не падабаюцца, і яно робіць адну мову раўнейшай за другую. І якія зараз



*Міхась Булавацкі*

высновы трэба рабіць Прэзідэнту, калі міністэрства яму не падпарадкоўваецца?

Для некага з тых дваццаці трох усведамленне сваёй моўнай абмежаванасці стане маленькім шокам, і нехта з іх паспрабуе хаця б крыху выправіць гэтую хібу сваёй адукацыі. Паспрабуе! І выправіць! Сам!! Без настаўніка, без міністэрства! Канечна, не ўсе. І нават не палова. Няхай такіх будзе два-тры чалавекі. Але яны будуць. Ведаю, што кажу, бо пяціборства праводзіцца ўжо дванаццаты раз. Праводзіцца дзеля тых двух-трох чалавек.

Далей яны чытаюць тэкст. У тэксце распавядаецца пра нейкага Ігната Дамейку, багатага пана, да таго ж і разумнага, бо яшчэ і "магістр матэматыкі", які, пачуўшы пра пачатак паўстання, кідае свой маёнтак, усё сваё багацце і далучаецца да паўстанцаў, а калі



паўстанне задушана царскімі войскамі, уцякае ў Парыж, а потым чамусьці яшчэ далей, на другі канец свету, у Чылі… Ім прапануецца знайсці моўныя памылкі, раскіданыя ў гэтым тэксце, памылкі, якія найчасцей робяць яны самі. Але памылкі вышукваюцца цяжка не толькі з-за гэтага, а яшчэ і з-за таго, што тэкст цікавы. Думкі не пра памылкі, думкі пра іншае. Чаго гэтаму пану не сядзелася ў сваім маёнтку? Чаго яму не хапала?! Супраць чаго паўстаў?.. Доўгія гады працаваў на рэспубліку Чылі і марыў вярнуцца ў родную Літву. З-за гэтай мары доўга не жаніўся, але ўсё ж у 38 год, будучы прафесарам першага чылійскага ўніверсітэта, ажаніўся на пятнаццацігадовай Генрывеце… Ім яшчэ не рэжа слых гэтае вульгарнае расійскае "на" ("Иван женился на Гале" - што ён зрабіў на Галі?) і яны хутчэй не пакажуць гэта як памылку.

Бо ім цікава: а што далей? А далей нічога, тут тэкст заканчваецца. Што сталася з гэтым Ігнатам у той далёкай краіне? Пытанне павісае. І, вярнуўшыся дадому, ці не кінецца хто з іх да кампутара, каб пашукаць звесткі пра таго дзівака Дамейку? Калі гэта зробіць хаця б адзін з дваццаці трох, то наша мэта дасягнута. Але мне чамусьці думаецца, што такіх будзе не адзін…

Паўтары гадзіны ціхай працы. 23 школьнікі розных класаў з розных гарадоў і вёсак сядзяць ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, думаюць і нешта пішуць. Зноў думаюць…

Пройдуць паўтары гадзіны. Разбягуцца яны па сваіх дамах. А праз некаторы час у тыя дамы паштальёны прынясуць лісты з паведамленнямі аб выніках іх удзелу ў беларускім пяціборстве. Акрамя тых паведамленняў у лістах будзе іншы тэкст, які, магчыма, закончыцца такімі словамі: "… Беларусь ціха чакае, пакуль ты, яе сын, успомніш пра маці сваю, павернешся да яе тварам і спытаеш: "Маці! Што трэба, каб ты жыла?" І Яна выдыхне доўгатрыманае: "Мова! Я жыву тваёй мовай." І аднекульданясецца голас Максіма Багдановіча: "Пачуйце жа гэта! Пачуйце!! Хто можа з вас сэрцам чуваць..."

***Міхась БУЛАВАЦКІ.***
“Наша слова” № 4, 2013 г.



# Уладзімір Ліўшыц

## Горацкія сябры Янкі Купалы





*« Дарагому Максіму Гарэцкаму…»*

Максім Гарэцкі пазнаёміўся з вершамі Янкі Купалы, калі паступіў у Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча.

Як успамінае брат пісьменніка, акадэмік Акадэміі навук Беларусі Гаўрыла Іванавіч, у вучылішчы пад кіраўніцтвам Максіма было створана «невялікае таварыства аматараў беларускай літаратуры». Выпісвалі «Нашу Ніву», чыталі «Тараса на Парнасе», вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа.



Максім Гарэцкі

Аднак асабіста Гарэцкі ды Купала пазнаёміліся ў Вільні ў канцы 1913 года. Максім Гарэцкі прыехаў па накіраванні для працы ў Віленскай губернскай каморніцкай чарцёжнай.Там жа, у вольны ад службы час працягваў займацца літаратурнай працай і публікаваць аповесці ды артыкулы.

Займаўся складаннем і падрыхтоўкай да выдання першага зборніка апавяданняў. Гэтая кніга пад назвай «Рунь» выйшла ў 1914 годзе ў выдавецтве «Беларускага выдавецкага таварыства», дзе сакратаром працаваў Янка Купала.




Першая кніга

Часта заходзіў Гарэцкі і ў рэдакцыю газеты «Наша ніва», дзе друкаваліся яго творы. Там таксама сустракаўся са знакамітым паэтам.

У ліпені 1914 года Максім Гарэцкі пачаў служыць у царскай арміі і яго жыццёвы шлях з Купалам разышоўся.

Сустрэліся яны толькі ў 1918 годзе ў Смаленску, дзе Гарэцкі працаваў у савецкіх арганізацыях, а затым у рэдакцыі газеты «Звязда».

Вядома, што некаторы час Гарэцкі з Купалам разам вучыліся на факультэце гісторыі мастацтваў Смаленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута.

Захаваўся цікавы дакумент – заява М.Гарэцкага, у якой ён просіць выдаць яму і *«слухачу таго ж інстытута І. Д. Луцэвічу (Янку Купалу) дазвол на права карыстацца кнігамі і матэрыяламі Архіўнай камісіі».*



Браты Гарэцкія.
Справа – Максім, злева – Гаўрыла

Брат Максіма Гарэцкага Гаўрыла Іванавіч успамінаў: *«У 1918 годзе ў Смаленску жыў Янка Купала. Максім досыць часта наведваў яго, беручы і мяне з сабой. Уладзіслава Францаўна* (жонка Я. Купалы – У.Л.) *гасцінна нас частавала. Янка Купала і брат гутарылі пра беларускую літаратуру, пра мінулае Беларусі, разглядалі кнігі па гісторыі Смаленска і Мсціслава, нумізматычную калекцыю...»*

У 1918-1923 гг. літаратары зноў не сустракаліся, але Максім Гарэцкі пільна сачыў за творчасцю Янкі Купалы. І калі выдаў у Вільні сваю кнігу «Гісторыя беларускай літаратуры», то зрабіў там аналіз творчасці знакамітага беларускага песняра.

*(Працяг будзе)*

# Роднай мове прысвячаецца...

15 студзеня 2013 г. ў магілёўскай гімназіі № 1 адбылася литаратурна–музычная вечарына.



Юрась Каласоўскі

Настаўнік беларускай мовы і літаратуры Юрась Каласоўскі адзначыў важнасць пераемнасці літаратурных традыцый, у тым ліку створаных айчыннымі класікамі Янкам Купалам і Якубам Коласам, і прадставіў запрошаных гасцей – паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Алеся Казеку і паэта, кампазітара, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міколу Яцкова.

М.Яцкоў падзяліўся з гледачамі сваім бачаннем беларускага паэтычнага сусвету, думкамі аб ролі класікаў беларускай літаратуры ў мацаванні нашай нацыянальнай свядомасці і прачытаў уласныя вершы.



Мікола Яцкоў

Алесь Казека распавёў пра свой шлях да творчасці, расказаў, над якімі тэмамі ён цяпер працуе. У выкананні Алеся прагучалі яго-ныя вершы і ўрыўкі з паэм.



Гучыць песня ў выкананні Алы і Міколы Яцковых

Асобнай тэмай вечарыны стала музычнае пераасэнсаванне класічных вершаў. Мікола Яцкоў патлумачыў асаблівасці паэтычнага тэксту, пакладзенага на музыку, распавёў пра спецыфіку пераўтварэння радкоў у песню і ўякасці прыкладаў выканаў некалькі сваіх кампазіцый на вершы Якуба Коласа і Янкі Купалы. Спадар Мікола не абышоў увагай і творы свайго сучасніка і калегі Алеся Казекі.



Дамавічок на шчасце



Алесь Казека

Гімназісты атрымалі ў падарунак экземпляр новага песеннага зборніка М.Яцкова на вершы Я.Коласа "Родныя вобразы". Алесь Казека ўручыў вучням зборнік сваіх песень "Единственный друг". У адказ госці атрымалі на памяць аб наведванні гімназіі сувеніры – па-майстэрску зроблены дамавічкоў.

Ю.Каласоўскі пазнаёміў гасцей з інтэр'ерам гімназіі. Значнае месца ў афармленні займаюць матэрыялы па ўшанаванні памяці Купалы і Коласа. Пазнаёміліся выступоўцы таксама з гімназічнымі друкаванымі выданнямі. Асобнае месца тут займае беларускамоўны бюлетэнь "Літара", дзе змяшчаюцца творы вучняў і настаўнікаў, падаюцца навіны культурнага жыцця не толькі роднай альма матэр, але і Магілёва, і краіны.


Спецыяльны выпуск газеты "Статус-кво" лістапад 2012 г.

# Літара

"Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзена"

Свята, што мацуе нашы карані

Выданне Магілёўскай гімназіі № 1

**Сяргей ПІСЬМЕННЫ.**

Фотаздымкі Ю.Каласоўскага, А.Яцковай, М.Яцкова і з асабістага архіва Ю.Каласоўскага.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 15.01.2013 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.